# КАЛЯНДАР ПРЫРОДЫ.

**Як угадаць пра надвор'е.**

1. Калі лёгкія шэрыя хмаркі плывуць ад аднаго месца заходняй палавіны неба з такою хуткасьцю, што рух іх можна лёгка заўважыць, дык гэта паказвае на набліжэньне навальніцы, альбо надыход дрэннай пагоды.

2. Высокія шэрыя хмаркі, з парванымі краямі, зусім нярухомыя,—ніжэй іх хутка плывуць хмаркі,—к добрай пагодзе.

3. Калі кучавыя воблакі к вечару не прападаюць,—к дажджу, а наадварот—адзнака добрай пагоды.

4. Калі ў ясную пагоду вецер некалькі дзён дзьмуў амаль у адзін бок, але пасьля адразу зьмяніўся—можна чакаць зьмяненьня пагоды і ападкаў.

5. Вялікая раса—адзнака добрай пагоды.

6. Калі ў лагчынах і нізкіх мясцох у вечары і ўночы зьбіраецца туман і прападае пасьля ўсходу сонца,—адзнака добрай пагоды.

7. Калі ўночы ў лесе значна цяплей, чым у полі,—адзнака добрай пагоды.

8. Калі тэмпэратура паветра ўвечары вышэй, чым раніцай,—можна чакаць пахмурай пагоды і з ападкамі.

9. Дым ідзе проста ўверх—к добр пагодзе, ідзе паземна, альбо сьцеле ца па зямлі—да пагоршаньня пагоды.

10. Калі вясёлкавыя колцы навок сьвяціл маюць вельмі маленькі дыямэтр к пахмурай пагодзе і ападкам.

11. Хуткае мірганьне зорак—к пахм рай пагодзе і ападкам.

12. Чырвоны вечар (зара) і шэрая р ніца—к пахмурай пагодзе і ападкам.

13. Калі вясною, летам і восеньню дн бываюць раскіданыя хмаркі, а да вечар яны прападаюць, дык гэта паказвае, ш ўстанавілася сухая і ясная пагода.

14. Калі ўдзень ясна, але пад веч хмаркі пачынаюць згушчацца і таўсьцец трэба чакаць дажджу, альбо перамен пагоды.

15. Калі ўночы ціха, раніцай-жа, пр гадзіну альбо дзьве пасьля ўсходу со ца, узьнімаецца вецер і ўзмацняецца д паўдня, і зноў сьціхае к вечару, ды гэта ёсьць добрая адзнака надоўга ясна і сухай пагоды.

16. Калі вецер к вечару ня сьціх альбо ўзмацняецца, дык амаль напэў можна чакаць надоўга дажджлівых дзён навальніц.

17. Чырвонае сонца лье слёзы—к даж джу альбо сьнегу.

---

## ЗЬМЕСТ.



---


Рэдколегія: **АДЗІНЕЦ М., БАЛІЦКІ А., БРЫГНЕВІЧ Г., ПЯКАРЧЫК А., ЯКІМОВІЧ А.**

Адказны рэдактар **А. ПЯКАРЧЫК.**

*Год выданьня 4-ы.* Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІЁНЭР

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 11** **ЧЭРВЕНЬ** **1928 г.**

## „Прэч курэньне“.

Пад гэткай назвай організаваўся першы атрад па барацьбе з курэньнем у Маскве. Сябры яго--падросткі: школьнікі і піонэры. Цікавую працу распачаў атрад. У дзеньніку атраду занатаваны ўсе моманты іх працы. Тут-жа розныя лёзунгі, накшталт:

„Не атручвайце паветра, якім мы дыхаем!“

„Мы змагаемся за сьвежае паветра—аснову здароўя!“

„Не давайце нам дрэннага прыкладу курэньнем!“ і інш.

Гэткія лёзунгі атрадаўцы пашыраюць у кожным жылым памяшканьні. Але гэтага мала! Атрадаўцы праводзяць больш сталую і конкрэтную працу: яны прыходзяць ва ўстановы і ўсе іншыя жылыя памяшканьні і „прымушаюць“ курцоў адрачыся ад сваёй нікчэмнай прывычкі курыць у памяшканьні і псаваць чужое і сваё здароўе.

На вялікі жаль да ліку курцоў шмат хто належыць і з падросткаў.

Малады організм яшчэ больш псуецца ад атрутнага курыва, чым стары.

Піонэры і школьнікі, організуйце па прыкладу Масквы атрады „Прэч курэньне“. Дапамагайце ўсімі мерамі зьнішчаць курэньне, асабліва сярод моладзі!



На малюнку т. БУХАРЫН дае атрадаўцам пісьмовае абяцаньне больш ня курыць.




# Малы рызыкант



*Апавяданьне* **М. Гарэцкага.**

*Малюнкі* **Філіпоўскага.**

Быў дзень адпачынку, надвор'е стаяла сухое і цёплае, і на прыстань сабралася пагуляць шмат мяшчанскае і сялянскае люднасьці.

Хадзілі і сядзелі, чакаючы ад'езду, пасажыры, а з імі іхныя родныя і знаёмыя, што іх праваджалі. Перакупнікі бойка прадавалі розную яду. Стрыжаныя, бяз шапкі, кітайцы насілі марожанае, чысьцілі боты і асабліва старанна, мусіць, дзеля сьвята, скалілі жоўтыя зубы і жартавалі, кульдыячучы нешта, што тутэйшыя жыхары разумелі, і сьмяяліся, а я ніяк ня мог зразумець.

Нарэшце я пацікавіўся і прабіўся паглядзець, што там такое, дзе найбольшы натоўп людзей. Аказваецца, рабы хлопчык-бяспрытульнік хадзіў, станавіўся і пяяў у грудзе, што яго зараз густа абступала. Я пачуў, што ён пяе пра муку:

Муку маю адабралі
І па шыі надавалі...

Пяяў ён пра звычайную гісторыю з нядаўна мінулых дзён, і я меўся ўжо адыйсьці, але мне вельмі спадабалася, што ён дзеля акампанімэнту трашчаў нейкімі асаблівымі маленькімі клякоткамі, сьціснуўшы іх па аднэй у кожнай руцэ, зусім, як трашчаць гішпанскімі кастаньетамі ў скоках.

Я прыгледзеўся бліжэй, і мяне, 'шчэ болей зьдзівілі яго вочы, на худым і бледным, моцна папсаваным воспаю твары. У вачох яго было праўдзівае творчае захапленьне і далёкая ад гэтага месца, засмучоная цяпер, думка прыроднага мысьленьніка. Можна было падумаць, што ён сьляпы... гэтаму-ж дапамагала сьмелая, але асьцярожная рухавасьць, з якою ён ускідваў галаву і махаў рукамі—як у сьляпых.

Сам я, пасьля вайны і рэволюцыі, чую сябе трохі гістэрыкам. У мяне вельмі лёгка накручваюцца сьлёзы і падпірае комам дыханьне. Але тым-жа часам выпрацавалася ў мяне і пэўнае кіраваньне сабою, і, калі я гэтага не хачу, я па сваёй волі магу не заплакаць, і не падпусьціць у грудзёх кому.

Тут мне было прыемна ня стрымацца... Я ўбачыў перад сабой блізкага чалавека. І падобную блізкасьць да яго адчуваў не адзін я, а ўсе, хто на яго глядзеў і слухаў яго песьню.

Мала таго: звычайная гісторыя пра муку была толькі маленькаю прыгодаю ў цэлай поэме з яго жыцьця. Ён пяяў, што быў змалку сваявольны, што бацька яго, прышоўшы з нямецкае вайны, памёр, што маці хацела зрабіць сына чалавекам і аддала яго ў батракі роднаму дзядзьку, але ён нікога ня слухаў і ішоў па сваёй волі, зьбег у горад і зрабіўся бяспрытульным...

Пяяў ён даволі няскладнымі радкамі, з дрэннаю рыфмаю і вельмі няправільнаю расійскаю моваю, але з такім па-

чуцьцём і праўдаю, што ўсе яго нязвычайна ўважліва слухалі, стараючыся цішэй лузгаць семачкі і меней гаманіць.

Ён скончыў, зьняў сваю старую і вялікую, не па мерцы, салдацкую шапку і выставіў яе перад сабой.

Грошай яму кідалі мала, затое ў адзін момант накідалі абаранкаў, пернікаў, цукерак, ён мусіў нават сесьці на пясок, і разгарнуў прыпол, і туды пасыпаліся гэтыя дары. Я чалавек ад прыроды ашчадны, гэтым разам так расчуліўся, што дастаў з кішэні і бяз усякага жалю кінуў яму ў шапку сарэбранага паўрубля. І хутчэй хацеў адсунуцца... Аж нехта паклаў мне руку на плячо і стрымаў. Я азірнуўся. Гэта быў высокі і немалады ўжо матрос, з сьветлымі падстрыжанымі вусамі на добрым і стройным, ня тутэйшым твары. Пасяброўску трымаючы мяне, ён ласкава сказаў: „Псуеш, браце, хлопчыка“... А потымпаківаў галавою, гледзячы на бяспрытульніка, і больш сурова сказаў яму: „Хлопец, ты ня дурань, а не сваёй дарогаю пайшоў... На вёску ідзі зямлю рабіць, або ў месцы шукай якога правільнага для сябе занятку“.

На параход пайшлі мы з гэтым навучальным дзядзькам у матроскай вопратцы разам, гаворачы аб бяспрытульных.

* * *

Адна з сучасных улюбёных гутарак у дарозе—гутарка аб бяспрытульных. Адны іх вельмі хваляць за рознае дзівацкае гэройства, другія вельмі ганяць за разбэшчанасьць і грубіянства.

Па гэтых гутарках можна часам беспамылкова вызначыць, да якога сацыяльнага стану прыналежыць чалавек і якая ў яго натура.

Калі хто ня ганіць і ня хваліць бяспрытульных, а толькі называе іх звычайным злом, з якім трэба змагацца, як і змагаецца Савецкая ўлада, дык напэўна гэта партыец: калі важны—дык, магчыма, сябар камісіі па змаганьню з бяспрытульнасьцю, калі звычайны—дык чалавек, змучаны ужо якім-небудзь змаганьнем у сваім грамадзкім жыцьці. Падхвальвае бяспрытульніка, калі ня шчыра—дык ня прыхільнік Савецкае ўлады, калі шчыра—дык рызыкант, авантурнік, або проста невялікага розуму чалавек. Вельмі лае—нэрвовы савецкі служачы, хоць і беспартыйны, але надта-ж, цераз меру, аддады новаму культурнаму сацыялістычнаму будаўніцтву ў нашым СССР. Здаровы і скнара селянін, а таксама рабочы з малою сьвядомасьцю зазвычай маўчаць, але яны бяспрытульных ня любяць.



*...рабы хлопчык-бяспрытульнік хадзіў, станавіўся і пяяў...*

Усё гэта на момант прышло мне ў думку пасьля размовы з тым матросам. Я не разумеў, чаму ён, матрос і чалавек разумны, так ня любіць бяспрытульных. Як гэта бывае ў дарозе, ён на хаду пасьпеў мне шмат аб іх сказаць.

Ён казаў, што найбольш бяспрытульных езьдзіць цяпер, улетку, чыгункаю. Едуць яны ў скрынках для вугальля, на прыступках, тэндэрах, дахах, нават на восях пад вагонамі. — „Вылезе, —казаў ён,—другі такі з-пад вагона, як чорт, абадраны, абпэцканы, сьвеціць голым целам, лахманамі трасе, распусьціць іх па ветру, як самая апошняя брыда“. Кажучы так, ён у злосьці забываўся, што патрэбна ўсё-ж такі малому хлопчыку вялікая адвага, каб падарожнічаць на восі пад вагонам. Далей ён з нейкаю, зусім незразумелаю мне, жорсткасьцю выкрыкнуў, што бяспрытульнікі нашы— гэта форменныя паразіты. Я пачуў ад яго, што нашы бяспрытульнікі заяжджаюць у Манчжурыю, у Харбін, нават у Шанхай, і бывалі выпадкі, што—у Японію. З Японіі, казаў ён, іх зараз выкідаюць, або забіваюць. Прызнацца, я падумаў, што ён маніць.

Між іншым, ён заўважыў, што на параход, усё-ж такі бяспрытульнаму пралезьці дужа цяжка і яго зараз высадзяць на першай-жа прыстані. Прынамсі, казаў ён, ня было яшчэ выпадку, каб нага бяспрытульнага ступіла на борт „Пролетария“. На гэтым амурскім параходзе, на якім мы цяпер ехалі, быў ён матросам.

Якое-ж было маё зьдзіўленьне, калі трохі пагадзя, як параход наш адышоў вёрст пяць, я ўбачыў на палубе—каго вы думаеце?.. таго самага бяспрытульніка, што пяяў на прыстані!..

Цяпер ён здаўся мне зусім іншым, і я нават зразу не пазнаў яго, думаў, што, можа, другі, але гэта быў ён, той самы рабы хлопчык.

Падыходзіў вечар, студзянела, шырачэзны Амур сурова хваляваўся, а чырвоны край неба адсьвечваўся ненатуральнасьцю і зьменнасьцю. Ужо ня цікавіла глядзець на далёкія зялёныя берагі. І ў гэты час ён выпаўз зьнедкуль на палубу і пагульваў каля пасажыраў. Яму, відаць, падабалася, што погляды ўсіх спыняюцца на яго маленькай асобе. А ўжо дзесьці пасьпеў абпэцкацца, твар яго быў у нейкай смале ці ў сажы з салам. Аднэй рукой ён курыў, пушчаючы дым скрозь носік, а другой увесь час падцягваў нагавіцы. Якраз міма праходзіў той самы матрос. Ён з агідаю аглядзеў бяспрытульніка з галавы да ног, кіўнуў мне на яго і буркнуў:

„Вось убіўся-ткі на „Пролетарий“, свалата! Ну, нічога, у нізавым высадзім“.

— Рукі кароткі!—адказаў яму, пачуўшы, бяспрытульнік, і такім тонам, як быццам і сапраўды дужа цяжка было яго высадзіць. Усе навокал засьмяяліся.

---

І хто-б мог думаць, гледзячы цяпер на гэтага малога, што жыць яму засталося ўсяго некалькі гадзін і што канец яго будзе такі страшны, сумны і просты...

На другі дзень нашага падарожжа, вельмі рана, калі яшчэ пасажыры спалі,

## Сёньня поле задорна сьмяецца.

Сёньня поле задорна сьмяецца,
І шумяць і шумяць каласы...
Прытуліўся летні вечар
І прылёг да грудзей зямлі.
Я-ж заўсёды—ля звонкай машыны,
Удваіх з ёй мы песьні пяем.
Думкам хочацца ў вечар сіні
Паляцець на спатканьне вясьне...
Тут у горадзе шум і гоман,
Бяз сьціханьня бурлівіць Менск.
У грудзёх расьцьвітае сягоньня
Новы, сіні, юнацкі дзень...
У грудзёх расьцьвітаюць нівы,
А на нівах шумяць каласы.
Неяк радасна, неяк гульліва
Косы сонца на полі ляглі.
Чырванее усход крывёю,
Ідуць жнеі з палёў грамадой...
А у горадзе з песьняй глухою
Заліліся гудкі над зямлёй...

*Ал. Розна.*

я вышаў пагуляць на палубу—і заўважыў, што матросы чымсьці занепакоеныя і паглядаюць у адзін бок і зараз з таго боку два матросы, адзін сьпераду, другі ззаду, панесьлі на шэрых насілках невялікі камок, пакрыты брэзэнтам.

Аказваецца, учарашні бяспрытульны хлопчык залез пад мост, дзе на ланцугох хадзіў сэктар параходнага руля. Зазвычай руль робіць адхіленьні на 20—30 градусаў ад асяродку і тады там можна сядзець. Але мусіць на крутым павароце руль адразу лёг на борт, на 80—90 градусаў, і канцом сэктара прыціснула яго да сьценкі і раздушыла. Сьмерць была ў адзін момант. Ніхто-б ня ведаў, але вахцённы, замятаючы сьмяцьцё, заўважыў, што з-пад маста, дзе ходзіць сэктар руля, тырчаць ногі. Ён паклікаў адміністрацыю, і тады матросы выцягнулі малога рызыканта. Цяпер яны нясьлі яго... Усё гэта хутка пераказаў мне адзін матросік.

Усё было вельмі проста... Але мне зрабілася так цяжка, быццам я быў вінаваты ў яго сьмерці. І зараз я падумаў аб старым матросе. Аж і ён быў тут, — увесь бледны, і, здаецца, аж трошкі тросься, так узнэрваваўся. Ён заўважыў мяне і кіўнуў мне галавою, паклікаўшы:

— Хадзі, братка... Паглядзі!

Калі мы прышлі ў тую каморку, куды яго занясьлі, насілкі стаялі ўжо на століку і матросы з фэльчарам выходзілі ў калідорчык. Стары матрос адкінуў край брэзэнту, і мы ўбачылі сіні перакрыўлены дзіцячы твар. У сударажна зьведзенай, чорнай ад бруду, маленькай руцэ быў зацяты недакурачак папіроскі.

Хто яго ведае, якім поглядам глядзеў цяпер на мёртвага стары матрос, але я пачуў, як ён уздыхнуў і сказаў:

— Курэц... Вось табе Шанхай і Японія... Наезьдзіўся...

Потым ён ізноў закрыў яго—і мы вышлі. У калідорчыку ён узяў мяне аднэю рукою за плячо, як на прыстані, і пацягнуў у у цямнейшы куток. Тут ён закрыў сабе вочы другою рукою, ціха пляснуўшы далоняю па твары і моўчкі паківаўся, як ад зубнога болю.

Я думаў, чаго ён так?

А ён моцна ціскануў мяне за плячо і глухім, зусім зьмененым голасам, з балючаю натугаю сказаў:

— Эх, братка... у мяне-ж свой гэткі... сволач... ня ведаю, дзе і што... шалаецца.

Якраз гэтым часам „Пролетарий“ падыходзіў да сяла Нізавога. Тут аддалі цела хаваць.



*І ў гэты час ён выпаўз зьнедкуль і пагульваў каля пасажыраў.*




*Апавяданьне вучня* **Б. Шарупіча.** *Малюнкі* **Мурашова.**

I.

— Тата, татачка, купі мне там кніжку,— прасіла маленькая дзяўчынка Ніла свайго бацьку Мікалая, які сягоньня павінен быў завесьці двух палякаў у горад. (Так загадаў мясцовы стараста).

Мікалай, высокі хваравіты чалавек, гадоў 32-х, выслухаў просьбу дачкі і сказаў:

— Добра, дачушка, добра, куплю табе кніжку, калі табе так захацелася.

— Купіш? Толькі, каб была з цацкамі, гэткая, як у цётчынай Аньці!

— Ага, вось чаму ты кніжку захацела, ад Аньці застацца ня хочаш!?

— А што-ж? Хіба я горшая за яе? Яна мне сваю кніжку паказвала і казала, што гэта ёй з гораду татка прывёз.

— Ну добра, добра, што-б там ні было, а кніжку я табе дастаўлю; новую і з цацкамі харошымі. На той год у школу будзеш хадзіць.

Гэтыя словы бацькі яшчэ больш узрадавалі Нілку і яна, з думкаю, што цяпер будзе мець сваю кніжку, пабегла да Аньці.

— Бач як узрадавалася, відаць да навукі вялікую ахвоту мае, — задуменна праказаў бацька. Але і ў дарогу пара, зараз мае „госьці“ прыедуць... Ой, ня дужы я, Агата... нейкая хвароба ўелася ў мяне, і чым далей, тым горш я сябе адчуваю, апошнія часы ўтома нападае на мяне нават тады, калі я не працую. Мусіць...

— Ат, пачнеш ужо прыдумліваць, гэтакі ты ў мяне ўжо ўдаўся, заўсёды выгляд хворы маеш, як сухотнік які. І шкода мне цябе, а іншы раз і злосьць возьме, калі пачнеш кіснуць, як баба якая!

Мікалаю стала трохі брыдка і ён стаў шукаць, чым-бы апраўдацца перад жонкай.

— Што-ж я вінават?—пачаў ён пасьля маленькага перапынку.—Пасьля таго, як я захваціў газу на нямецкай вайне, дык і стаў сохнуць. Мне цяпер супачыць трэба! а яно вось як робіцца. Пазаўчора вярнуўся з падвод, а сёньня ізноў ехаць трэба!

— Так-то яно так, але трэба пацярпець яшчэ трохі, палякі адступаюць, ды й кажуць ужо больш ня вернуцца, вось тады і супачнеш.

— Чорт яго, мусіць, супачне, доля мая ўжо гэтакая... Ну, давай, што там у цябе ў торбе, вунь палякі праклятыя ідуць, ехаць трэба.

Жонка вынесла торбу і Мікалай, апрануўшы стары, парваны кажух вышаў з хаты. Палякі, як відаць, з нецярпеньнем чакалі гаспадара і паўзпаўзалі на воз.

— Ну, ты там прэндзэй, нельга часу дарма траціць.

І сапраўды палякам ня было часу. Бальшавікі наступалі і хутка гатовы былі заняць вёску. За лесам, які знаходзіўся ў некалькі вярстох ад вёскі, чуліся гарматныя стрэлы. Мікалай сеў уперадку і, узяўшы ў рукі пугу, пагнаў свайго коніка па пыльнай дарозе.

II.

У той час, як бацька выяжджаў з двара, Нілка адчыняла дзьверы сваёй таварышкі і аднагодкі Аньці. У вясёлым настрої

ўбегла яна да Аньці і, доўга не чакаючы, расказала ёй пра сваю радасьць.

— Цяпер і ў мяне кніжка будзе,—так закончыла яна сваё апавяданьне.

— Вось і добра,—адказала таварышка,—на той год вучыцца пойдзем?

— А як-жа, пойдзем! мне тата ўжо гэта сказаў: абавязкова, кажа, пашлю цябе на той год у школу.

— І мяне таксама пусьцяць, мама вельмі хоча, каб я кніжкі чытаць умела... А й хачу-ж я чытаць навучыцца!.. Хадзем яшчэ раз малюнкі ў кнізе паглядзім.

Дзеці паселі за стол і пачалі ўжо ня ў першы раз разглядаць малюнкі ў кнізе. Аньця перагортвала старонку за старонкай і застанавілася на малюнку сабакі, відаць, зьбіраючыся нешта сказаць.

— Бачыш, Нілка, ото сабака намалёваны. Мая мама, калі я ёй паказвала гэты малюнак, казала, што ў іх некалі быў во гэткі во сабака, Бельчыкам зваўся, ды такі сярдзіты, што абы саскочыў з ланцуга, дык бяжыць і кусае каго папала. Вось аднойчы ўночы мамін бацька пачуў страшэнны брэх Бельчыка і нейкі стук. Ён выскачыў на двор і, падбегшы да сабакі, убачыў, што той некага рве. Бацька, угледзіўшыся лепш, пазнаў пад Бельчыкам Залескага злодзея, якога нядаўна выпусьцілі з турмы. Потым ён прызнаўся, што хацеў украсьці каня.

—Вось дык сабака, чалавека ўлажыў,— з цікавасьцю вымавіла Ніла...

Дзеці пачалі разглядаць далей кніжку. Вось воўк нясе авечку, далей кот трымае ў зубах мышку, а вось і зайчык пад кусьцікам сядзіць, сьмешна выцягнуўшы лапкі і навастрыўшы вушкі, быццам чаго баючыся.

— Але якраз, як жывы! — зазначыла Ніла.

— Як жывы? А ці ты бачыла жывога зайчыка?

— Няўжо-ж ня бачыла, у нас цэлае лета зайчык жыў і харошы гэтакі: я яго і малаком паіла і капусту з морквою грызьці кідала, так і жыў пад ложкам цэлае лета. Пад восень зайчык мой быў ужо вялікі, так з добрага ката. Аднойчы палезла я пад ложак, паіць свайго зайчыка, аж яго там няма, я ў сенцы—няма, шукала, шукала—нідзе няма. Выбегла я на двор і чую крычаць у садзе дзеці: „Цюйга, зайца, зайца!“ Кінулася я туды. Аж бачу: імчыцца мой зайчык па садзе, а за ім цэлая куча дзяцей. Сталі яны зваць сабак. Але пакуль тыя прыбеглі, дык зайчык уцёк. З тэй пары я яго ня бачыла...

А так я яго любіла! І цяпер шкода яшчэ!

— Як гэта я ня ведала, што ў цябе быў зайчык! Ты, мусіць, хлусіш.

— Я вось і хацела, каб ніхто ня ведаў, бо баялася, каб ня ўкралі часам.

— Ага, вось якая ты...

Праз некаторы час усе малюнкі ў кніжцы былі разгледжаны, і Нілка накіравалася дахаты. Тут яна аддалася думкам аб новай кніжцы.

III.

Тым часам, Мікалай быў у дарозе. Да гораду было 55 вёрст і каб заехаць туды завідна, трэба мець добрага каня і выехаць з вёскі як найраней. А конь у Мікалая быў няцікавы, малы, як і ўва ўсіх нашых паляшукоў. Такіх маленькіх конікаў празвалі тут „палескімі скакунамі“, мусіць за іх самую характэрную здольнасьць пераскакваць з купіны на купіну. Выехалі яны таксама ня рана, і, дзякуючы гэтым двум прычынам, Мікалай падганяў свайго „скакуна“. Першыя дзесяць вёрст ён бег весела, але чым далей, тым



*Ударам кулака зваліў ён яго на зямлю.*

часьцей ён стаў прыставаць. Мікалай боязна пазіраў на палякаў і, сустракаючы іх сярдзіты позірк, паганяў каня.

Калі неба пачало шарэць, палякі пачалі непакоіцца і падганяць Мікалая.

— Хутчэй паганяй, пся крэў, зараз ноч будзе, а мы да лесу не даехалі!

Трэба заўважыць, што дарога ў горад часткова пралягала праз лес, якога так баяліся палякі; хадзілі чуткі, што там знаходзіўся партызанскі атрад. Калі сьцямнела зусім, хурманка ўехала ў лес. Раптам з боку дарогі раздаўся стрэл. Адзін паляк з перапуду кінуў стрэльбу, а другі, больш сьмялейшы, выстраліў і, выхапіўшы з Мікалаевых рук пугу і лейцы, пачаў бязьлітасна біць каня, які і так скакаў з усяе моцы, спужаўшыся стрэлаў. Адзін за адным прагучэлі яшчэ два стрэлы ззаду і ўсё сьціхла.

Палякі не адстрэльваліся. Толькі той, каторы выхапіў у Мікалая лейцы, бязьлітасна біў каня і лаяўся. Конь скакаў, а Мікалай сядзеў у перадку і моўчкі паглядаў на раззлаванага паляка. Лес скончыўся.



*Прыбілі мяне палякі... не далі купіць табе кніжкі*

Тут ужо палякам не пагражала ніякая небясьпека, але разьюшаны паляк біў і паганяў каня, з якога ўжо пена падала белымі кавалкамі. Да гораду заставалася 1-2 вярсты і раптам конь з усіх чатырох грымнуўся на зямлю, а ад нечаканае астаноўкі ўсе павыкідаліся з возу. Злосьць паляка перашла ўсякія межы і ён зноў кінуўся на ляжачага каня і пачаў яго біць па чым папала. Але дарэмна. Конь ужо не падымаўся і са сьвістам пацягнуўшы ў сябе паветра—здох.

Тут Мікола ня вытрымаў.

— Што ты робіш, зьвер!—крыкнуў ён, увесь дрыжучы ад злосьці.

— А, дык ты гэтак! Падлы свае шкадуеш! Вось і табе!—і, кінуўшы бедную жывёлу, наскочыў на Міколу.

Ударам кулака па галаве зваліў ён яго на зямлю і стаў біць і таптаць нагамі. Другі паляк, так спужаўшыся ў лесе і цяпер апамятаўшыся ад перапуду, выскаліў зубы і глядзеў, як яго сябар катуе „хамскае быдла“. Выбіўшы ўсю сваю злосьць, паляк аддыхаўся і разам з другім пашлі ў горад ня зірнуўшы на ляжачага, зьбітага, акрываўленага Мікалая.

Пачало разьвідніваць... З гораду вяртаўся адзін селянін і ўбачыў недалёка ад дарогі ляжачага Мікалая, а побач здохлага каня. Ён уразумеў у чым справа і ўсьцягнуўшы Мікалая на воз, павёз дахаты. Ад калатні ў дарозе Мікола апамятаваўся і стаў варушыцца, і нешта хрыпець. Прыехаўшы ў вёску, селянін асьцярожна зьняў Міколу з возу і павёў у хату.

— Э-эй, Агата, выдзь сюды!—гукнуў селянін Міколаву жонку.

— Што яшчэ там трэба!—адазвалася яна і вышла на двор. Угледзіўшы зьбітага, акрываўленага гаспадара, Агата быццам аслупянела і дзіка пазірала, нічога не разумеючы.

Толькі калі селянін увёў Мікалая ў хату і палажыў на ложак, Агата загаласіла на ўсю вуліцу і рынулася да Мікалая, заламала рукі, праклінаючы „сваю бедную галоўку“ і праклінаючы палякаў

Нілка ў гэты час гуляла ў Аньці. Пачуўшы крык маткі, яна прыбегла дамоў і, даведаўшыся ў чым справа, моцна заплакала, падбегла да бацькі і стала трэсьці яго:

— Татачка, чаму ты гэтакі? Што з табой зрабілася?

Бацька заварушыўся, пачуўшы голас дачкі, захроп...

— Прыбілі мяне палякі...не далі купіць табе кніжкі... згубілі... Больш нічога ня мог вымавіць, зачыніў вочы і нешта шаптаў, хроп. Уночы бацька памёр.

# ЯК МЫ СЬВЯТКАВАЛІ МДТ.

Міжнародны Дзіцячы Тыдзень па Менскай гарадзкой піонэрарганізацыі прашоў сёлета з надзвычайным посьпехам і ўздымам. Яшчэ ніколі працоўны Менск ня бачыў на сваіх вуліцах гэтулькі дзетвары.

Гэты тыдзень моцна ўскалыхнуў ўсю піонэрарганізацыю Менску, надаў ёй сілы і энэргіі для далейшага паляпшэньня працы атрадаў і ўзмацненьня інтэрнацыянальнага выхаваньня. Каля 70 атрадаў пасьпелі паслаць на працягу тыдню лісты піонэрам іншых краін. Усе атрады падрабязна абгаварылі на сваіх сходах адозву ЦБ ЮП, на падставе якой вызначылі конкрэтныя шляхі да паляпшэньня сваёй працы.

Але гэтым яшчэ не абмяжоўваюцца вынікі тыдню. Неабходна адзначыць, што апошні здолеў прыбавіць увагу ўсёй Савецкай грамадзкасьці да піонэрарганізацыі, прымусіць адпаведныя органы зацікавіцца нашым жыцьцём і працай, даведацца аб нашых дасягненьнях, недахопах і патрэбах.

**Вечарам 19 мая.**

Факельны паход піонэрарганізацыі, які быў наладжан у гэты вечар, адбыўся ў Менску ўпяршыню, але прайшоў на дзіва ўдала і організавана. Звыш чаканьняў усе ўдзельнікі дэмонстрацыі зьявіліся да сваіх атрадаў і райкомаў своечасова і організавана. Паход цягнуўся ад 9-ай да 11-ай гадзіны раніцы.

На пляцу „Волі", маладых дэмонстрантаў сустрэла дэлегацыя ў складзе членаў ЦК і АК ЛКСМБ, якія віталі піонэраў са сьвятам.

**Раніцай 20-га мая.**

Агульна-гарадзкая дзіцячая дэмонстрацыя прыцягнула нябывалы дагэтуль лік удзельнікаў, які перавышаў 10 т. ч.

У-пяршыню за час істанаваньня менскай піонэрарганізацыі, у дэмонстрацыі прынялі ўдзел таксама і вучні школ, і акцябраты і неорганізаваныя дзеці.

Доўгімі калёнамі зьбіраюцца атрады на пляц „Волі". Першым зьявіўся Гарадзкі раён, за ім Ляхаўскі і Акцябрскі. Цёплае сонечнае надвор'е як найлепш спрыяе дэмонстрацыі.

Вось праімчаліся па вуліцах 2 аўтамабілі-грузавікі, поўныя вясёлых чырвонашчокіх акцябрат. Яны часамі нахіляюцца да долу, вымаюць нешта адтуль і як градам абсыпаюць вуліцу сотнямі лістовак. На лістоўках надрукована адозва ЦБ ЮП.

Многія атрады, акрамя сьцягаў, нясуць прыгожа намалёваныя лёзунгі і плякаты.

— Мы патрабуем увядзеньня гарачага сьнеданьня ва ўсіх школах, павялічэньня дапамогі бяднейшым вучням!

— За чыстку зубоў, акуратную вопратку, ужываньне мыла, супроць расхлябанасьці, бруду і неахайнасьці!

— Сонца, вада і паветра—нашы лепшыя сябры!



*Малыя дзеці дэмонстрыравалі на аўтобусах.*

Партыі патрэбна моцная, здаровая зьмена. Піонэр, займайся фізкультурай, каб узмацніць сваё здароўе, набыць новыя сілы!—рассыпаюцца сярод натоўпу дзетвары лёзунгі.

А вось і карнавал. Група загрымiраваных піонэраў уяўляе старую дарэволюцыйную школу, у якой „маменькіны сынкі“ цалуюць ручкі „кляснай даме“, схіляюцца перад ёю, „зубраць“ урокі ды інш. Тут-жа побач і новая школа, з яе фарпостам, самакіраўніцтвам і г. д.

Здаецца, канца ня будзе гэтым шматлюдным калёнам, якія ўсё прыбываюць і прыбываюць на пляц.

* * *

Нарэшце на пляцы зьяўляецца група членаў ЦК КПБ, АК КПБ, ЦК і АК ЛКСМБ. Хутка праходзяць яны праз пляц, вітаючы на хаду піонэраў.

Сярод іх: Кнорын, Чарвякоў, Галадзед, Славінскі, Баліцкі...

Мітынг адчыняе сакратар Мен. акругкому ЛКСМБ тав. Красоўскі.

Потым слова для прывітаньня атрымлівае тав. Кнорын.

— Вітаю вас са сьвятам Міжнароднага Дзіцячага Тыдню!—кажа сакратар ЦК КПБ.—Вам, піонэры-ленінцы, выпала ў жыцьці вялікая задача: давесьці да канца тую справу, якую распачаў ваш правадыр, той, чыё імя вы носіце. Каб пасьпяхова справіцца з гэтай задачай, вам трэба вучыцца, набірацца ведаў, нагэтулькі патрэбных членам новай грамады, падрастаючаму пакаленьню...

Гавораць яшчэ таварышы: Чарвякоў, Галадзед, Баліцкі і інш. Кожнае слова прамоўцаў глыбока ўразаецца ў памяць піонэраў, яны адчуваюць, што гэтыя словы застануцца там назаўсёды.

Тыя, што стаяць ня блізка да трыбуны, дрэнна чуюць прамову, да іх даходзяць толькі асобныя словы. Але асноўнае з кожнай прамовы зразумела: старэйшыя таварышы ўскладаюць вялікія надзеі на маладое пакаленьне, якое здолее пабудаваць соцыялістычную грамаду. І неяк асабліва радасна, асабліва шчыра гучыць піонэрскае „заўжды гатовы“ ў адказ на заклікі правадыроў.

Калі бярэ слова стары бальшавік т. Славінскі для прыёму ўрачыстага абяцаньня, раптам усталёўваецца цішыня. Слова за словам паўтарае 10-цітысячная маса тое, што говорыць т. Славінскі—тэкст ўрачыстага абяцаньня.

* * *

А другой гадзіне дню ў садзе „Профінтэрн“ адбылося вялізнае дзіцячае гуляньне, у якім прымала ўдзел звыш 4-х тысяч дзяцей.

**Язэп.**

# ГУЛЬНІ ЗАМЕЖНЫХ ПІОНЭРАЎ.

### „Узяць напрамак“.

Намякаючы на тое, што зараз будуць гуляць у нешта вельмі цікавае, кіраўнік запрашае дзяцей стаць у адзін шэраг на каленях. Сам ён становіцца ля аднаго з флангаў, нібыта хоча праверыць напрамак шэрагу. Нечакана ён вытне першага фланговага. Той падае і ўвесь шэраг павінен валіцца адзін за другім.

### „Грамата вышуку“.

Спрытная паліцыя шукае комуністых. З гэтай мэтаю загатаўляецца грамата вышуку. Лісток падзяляецца на слупкі для ўзросту, колеру валос, вачэй і г. д. Лініі праводзяцца на ўвесь ліст. Грамата складваецца пасярэдзіне так, каб абазначэньні ня былі відаць. Цяпер лісток пераходзіць ад аднаго гуляючага да другога і кожны піша якую-небудзь прымету, ня ведаючы ў які слупок яна папала, таму што ліст-жа зложаны. Адгэтага атрымліваецца вельмі сьмешная грамата, якая ў канцы прачытваецца. Напрыклад: вочы—чырвоныя, валасы—няма, рост—паўтары мілімэтры і г. д.

### „Шукайце вузел“.

Усе садзяцца ў кола, па магчымасьці бліжэй адзін да другога і перадаюць рукамі вузел скарача пад сьціснутымі каленямі. Адзін з гуляючых стаіць у сярэдзіне і павінен шукаць вузел, прычым, астатнія гульцы павінны адпаведнымі крыкамі і жэстамі перашкаджаць знайсьці месца, дзе знаходзіцца вузел. Калі-ж той, хто шукае, знаходзіцца зусім у другім баку ад гамаша, ён атрымлівае ўдар ззаду вузлам. Шукаючы замяньваецца тым, у каго ён знайшоў вузел.

# Жыцьцё дзяцей за межамі.

## Працуюць па 16 гадзін.

Часамі дасьціпныя гандляры займаюць месца прамыслоўцаў і дастаўляюць дзяцей у фабрычныя вакругі. Яны трымаюць іх звычайна ў якім-небудзь змрочным склепе, пакуль здолеюць перадаць іх якому-небудзь уласьніку фабрыкі, які мае патрэбу ў рабочых руках. Ён, зьявіўшыся, пачынае дасьледваць іхную вагу, сілу і склад цела, якраз так, як рабілі ўласьнікі нявольнікаў на амэрыканскіх рынках.

Пасьля гэтага дзеці пакідаюцца проста на літасьць іхных гаспадароў пад відам вучняў. Але на справе, яны толькі нявольнікі, якія не атрымліваюць ніякае платы, і якіх няма нават выгады апранаць і карміць як трэба, таму што яны дасталіся так танна і іншае месца можа быць так лёгка заменена.

Каб пазбавіцца ад дурных і кволых, мясцовая ўлада часта ўстанаўляе такі парадак, што ўласьнік фабрыкі павінен браць на кожныя 20 дзяцей аднаго ідыёта.

Лёс гэтых няшчасных ідыётаў яшчэ горшы ад іншых. Таемнасьць іхнай сьмерці ніколі ня была раскрыта...

Гадзіны іхнае працы абмяжоўваліся толькі зьнемажэньнем, пасьля таго як усялякія сродкі мучэньняў ужываліся бяз ніякага посьпеху, каб прымусіць дзяцей працаваць далей. Дзеці часта працавалі па шаснаццаць гадзін штодзенна і ўночы і ўдзень.

*(Ангельшчына).*

## Як настаўнікі распаўсюджваюць хлусьню аб СССР.

*(Ліст з Прагі).*

На лекцыі па географіі профэсар апавядае нам аб Савецкай Расіі наступнае:

З прычыны таго, што Расія ў сучасны момант,—гаворыць профэсар,—зьяўляецца нашай варожай краінай, я доўга аб ёй гаварыць ня буду.

Ранейшая Расія, якая была ў 5 разоў большай за сучасную—распалася, бо расійскі цар, які ня мог даглядаць за такой вялізнай краінай, аддаў усю зямлю абшарнікам, якія вымагалі з бедных сялян вялікія падаткі.

У гэты час жыў у Расіі Ленін, які быў адным з найвялікшых ворагаў цара. Ён заклікаў народ забіць цара за тое, што праз яго віну распалася гэтая ня толькі вялікая, але і жудасная краіна. Масква раней была і зараз зноў стала сталіцай Расіі. Пецярбург пасьля рэволюцыі пераімянованы ў Ленінград.

Я,—працягвае профэсар,—ні ў якой краіне не жадаю мець такога чалавека, як Ленін, які давёў Расію да разбойства. Ленін нават завёў у Расіі катаваньне над жывёламі.

Гэля.


Nach der Konfiskation berichtigt.

Preis 50 h.

PROLETARIER ALLER LÄNDER VEREINIGT EUCH!

ROTE JUGENDWACHT

ORGAN FÜR DIE INTERESSEN DER WERKTÄTIGEN JUGEND IN STADT UND LAND.

Die rote Slowakei.

Das Rote Prag - Das Grüne Prag.

Газэта пролетарскай моладзі Славакіі. На пустых мясцох усюды падпісана „конфіскавана"—гэта значыць забаронена паліцыяй. І гэтакім „рабым" выходзіць кожны нумар газэты, якая гаворыць праўду аб буржуазіі.

# ЯНЫ ЯШЧЭ ВЕРНУЦЦА ДАМОЎ.

Ме́сяц таму назад пролетарская Масква прытуліла ў сябе дваіх дзяцей—дзяцей аднаго баўгарскага рэволюцыянэра Марка Фрыдмана, які за сваю работу быў фашысцкім урадам Баўгарыі павешаны ў 1925 г.

Цяжка гаварыць з дзецьмі аб іх бацьку. Прыходзіцца надзвычайна асьцярожна падыходзіць да гутаркі на гэту тэму.



*Карл і Рэнэ.*

Але ў разгары гутаркі, дзеці неяк самі мімавольна закранаюць успаміны аб далёкай Баўгарыі.

— Калі папу пакаралі, — расказвае 8-гадовая Рэнэ,—нас на пляц ня пусьцілі. Нікога з сям'і ня пусьцілі!—Буржуазія (слова „буржуазія“ дзеці асабліва часта ўжываюць),—працягвае Рэнэ,—наогул ня любіла нашу сям'ю. Маму нават таксама арыштавалі і доўга трымалі ў турме. Мама зараз жыве ў Сафіі, працуе на фабрыцы...

У перапынкі ад гутаркі пра матку Карл уздрыгвае і, падымаючы свой смуглявы кулак, зьнянацку кідае:

— Я буду комуністым... адразу пасьля піонэра! І паеду назад дамоў.

Комуністкай абяцае стаць і вярнуцца ў Баўгарыю і дзяўчынка Рэнэ. Асабліва парэволюцыйнаму настроены Карл. Старая настаўніца, загадчыца дзіцячым домам, расказвае, з якой любоўю гэты хлопчык сачыў за першамайскай дэмонстрацыяй у Маскве, як радасна слухаў рэволюцыйныя сьпевы комсамольцаў... Ды ён і сам ведае: „Марш Будзённага“, „Інтэрнацыянал“ і „Піонэрскую Картошку“. Па словах настаўніцы, якая сачыла за Карлам, гэта настойлівы і з надзвычайна моцнай воляй хлопчык. Урэшце, Карл узнагароджан і другімі якасьцямі. Ён ужо гуляе ў шахматы! Ды яшчэ як! Дае мат дарослым, моцным шахматыстым.

— Ну, ужо калі ў шахматы ня ўмець гуляць,—паважна заяўляе Карл,—дык зачым наогул жыць?..

Маленькі Карл асабліва паважае трамвай. Магчыма тут адыграла сваю ролю вядомае здарэньне з рэволюцыйнага жыцьця яго бацькі. Здарэньне гэта адбылося ў сакавіку 1925 г., калі быў выкрыты ў Сафіі „комуністычны вайсковы асяродак“. Фрыдмана тады паліцыя хітра выведала, абкружыла і для большай перакананасьці пачала па ім страляць. Адстрэльваючыся, паранены ў нагу, Фрыдман кінуўся бегчы. Але перавага была на баку ахраньнікаў,—яны шчыльным колам абкружылі яго і... вось тут і адыграў сваю ролю трамвай. Марк Фрыдман уцёк ад пагоні, ускочыўшы наляту на трамвай!

Карлу было толькі 3 гады. Ці памятае ён і аб гэтым яркім выпадку з Фрыдманам? Памятае!—Бо малыша выхоўвалі на такіх асобных кавалках суровай барацьбы. Гэтым толькі і тлумачыцца цьвёрдасьць волі хлопчыка, яго гарачае жаданьне „стаць комуністым“. „Адразу пасьля піонэра!“ і абавязкова:

— Паехаць назад у Баўгарыю!

**М. Зубаў.**




*Апавяданьне ў вершах* **К. Шавеля.**
*Малюнкі* **Тараса.**

I.

Пагубляў я дні свайго дзяцінства
І пайшоў на новыя страі
Па шырокім радасным гасьцінцы,
Што прарэзаў сінія краі.

На шляху страчалі крыўды многа,
Рэзаў ногі дзён мінулых жвір.
Сёньня-ж—клюб, ячэйка комсамолу,
Б'е жыцьця бунтуючага вір.

Я газэты розныя чытаю,
Перабраў цікавых многа кніг.
Вось таму часамі й залятаю
Думкамі ў закрэсьленыя дні.

Параўнаю быўшыя імкненьні
І душы цяперашні імпэт.
Льлюцца словы, льлюцца, як струмені,
Апяваюць сёнешні сусьвет.

* * *

Помню я ліпнёвы ціхі вечар,
Кажаны лcraталі над сялом.
Ліўся бурны сьмех, канечне,
Але раптам вестак шмат прышло.

За сталом сядзеў я ля ваконца,
Адчыніў—на вуліцу, глядзеў.
Чую я—наехала бяжэнцаў,
Незнаёмых дзеля нас людзей.

Падбягаю. Бачу шмат фурманак,
Яшчэ больш сабралася людзей.
Я вышэй зьмясьціўся на паркане,
Каб зручней адтуль было глядзець.

На вазох—кублы, пасьцелі, скрынкі,
Куфры, вёдры, міскі, ды цабры.
— Як на ніжнянаўгародзкім рынку!
Гэтак дзядзька Янка гаварыў.

Мусіць, вунь, на возе, матка з сынам...
Іх сваймі вачмі я ахваціў.
А пасьля прыйшла ка мне хвіліна,
Што хацеў да іх я падыйсьці.

Хлопец быў, напэўна мне равесьнік.
Шчуплы твар такі, як мой.
Галаву бялявую ён нізка зьвесіў,
І, відаць, заняты быў думой.

Эх, каб з ім пагутарыць хоць крышку!
Разагнаў-бы я яго нуду.
Яго бацька кажа Грышку:
— Ці прытулак я у вас знайду?—

— Добра, кажа, месца можа хваціць:
Пабяром на месяц ці другі.
Я вазьму, а там Пятрусь, Ігнаці,—
Не такі-ж народ у нас благі!

Слухаў я і сэрца замірала:
Хлопец той суседам будзе мне.
Што далей гамонка заціхала,
Не хацеў я йсьці дахаты нейк.

II.

Ноч мінула. Доўгаю-ж была!
Ах, чакаў я ранешняй лазуры.
Вышаў я ў садок, дзе ўсякі хлам,
І заўжды дзе ходзяць нашы куры.

Цераз плот цікую к ім на двор,
Бачу я—аж з хаты ён выходзіць!
Ці пазваць, ці не (а мо‘ пашкодзіць)?
Пэўна, ён мяне не прыкмячаў.

Я-ж сачыў за кожным яго крокам.
Мячык ён рызінавы качаў,
Ці пускаў яго часамі ў скокі.
А ў мяне такога і няма...

Я на плот высока тут узлажу.
Як паклікаць? Эх! хоць як, дарма!
Абзавуся, хутка тады зладжу.
— Слухай, хлопча! Прымеш мо‘ й мяне

Пагуляць у мячыка з табою?
Ён трусьліва: „Што-ж, гальцай ка мне!
Пагуляем тутака абое...
Толькі ты мо‘ мячык адбярэш?“

— От дурны! Ці-ж я такі ўжо злодзей?
Пастаяў ён крыху, а пад рэшт
Да паркану блізка падыходзіць.
Скочыў я. Пашла гульня ў той час.

(А лавіў часьцей той мячык я ўсё)
— Ты мяне, браток, не прыкмячаў?
— Прыкмячаў, пазваць цябе баяўся...
— Ты, Кастусь? а я завуся—Стась.

— Колькі год ты, Костусь, цяпер маеш?
Ці каровы пасьвіць ты ганяў?
— Ну, а як-жа, што аб тым пытаеш?
Пасьвіў, брат. Сяголета-ж пастух

На ўсю вёску згоджаны агулам.
8 мне. А дзесьці пеў пятух,
Пакаціліська садам рэха гулы.
Патухала сонца за гарой

І паволі цені ўсюды кляліcь.
Успамінаў Стась роднае сяло,
Як ад немцаў калісь уцякалі.
Удзень і ўвечар многа было слоў.

Доўга, доўга час з ім каратлі.
Беглі дні і лета ўцякло.
Прыляцела сумная навіна:
— Пакідаюць бежанцы сяло,

Едуць зноў бадзяцца па краіне.—
—-Адрас даць? ці-ж ведаю яго?
Валачыцца буду я усюды.
— Ну, дык, браце, покуль усяго!
Я цябе ніколі не забуду!

III.

У атрадзе ня жыцьцё, а ўцеха—
Колькі я там радасьці ўжо меў!

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Раз вясною з вучнямі я ехаў
На экскурсію у горад Менск.

Час ідзе, кілёмэтры ўсё гоніць.
Колькі шчасьця, радасьці плыве!
Аж гляджу я—у вагоне
Апынуўся новы чалавек.

На яго я глянуў і зьдзівіўся:
На мяне чамусь ён, як ніхто,




Нейкім дзіўным позіркам упіўся:
— Не пазнаў мяне, Кастусь, ці што?
Што за ён, такога я ня бачыў...
Яго-ж вочы іскрацца зарой.
— Ці ня Стась? Браток! Каго я бачу?!
Мы спаткаліся такой парой.

— Дзе, Кастусь, ты вучышся цяпер?
—У Вузьдзе. Ў сямёхгадовай школе.
Ну, а там мяркую далей пастуціць.
Вось толькі-б здолеў...

У цябе на грудзях зьзяе „КІМ“.
Ну, а я пакуль у піонэрах.
Прыдзе час, дык стану й я такім.
(І на вуснах радасьці бяз меры).

— Ну, а як працуе ваш атрад?
— Вырас так, што проста люба!
Недахопаў ёсьць у працы шмат,
Бо жывём дасюль яшчэ бяз клюбу.

* * *

Вось ён Стась. Ці-ж гэтакі як быў?
У яго другія ўжо імкненьні.
Ён пазбыўся гора і журбы.
Прад жыцьцём цяпер ня кленчыць.

Выяжджае з вёскі на пасёлкі.
(Гаспадар ён—бацькі ўжо няма),
Гора зьнікла быццам-бы вясёлка...
Перад ім мінулае—туман.

Доўга мы са Стасем размаўлялі.
Ён свой сталы адрас даў...
Цягнік стаў, і я з ім на вакзале
Разьвітаўся, ну, і—хто куды...

---

Вось за тым часамі й залятаю
Думкамі у закрэсьленыя дні.
З захапленьнем Стасяў ліст чытаю,
Што заўсёды радасьцю зьвініць.

Я таксама сёньня комсамолец,
А ў грудзях бунтуючы імпэт.
Затрымаць мой сьпеў ніхто-б ня здолеў,
Што зьвініць пра сёнешні сусьвет.

---

# Што гэта такое?

*(Жарт).*

Мікола сустракае Пятруся.

— Слухай, Пятрусь,—гаворыць Мікола,—ты, здаецца, хлопец спрытны і разумны, адгадай-жа, што гэта такое: чорнае лётае ў паветры, мае дзьве нагі і крычыць кра-а-а...?

— Гэ-э-э, — адказаў Пятрусь, гэта-ж крумкач!

— Правільна. Але, што вось гэта: чорнае мае чатыры нагі, лётае ў паветры і крычыць: кра-а-а, кра-а-а?

— О-о-о! Гэта цяжка адгадаць. Гэта два крумкачы.

— Ну, цяпер я цябе запытаю нешта цяжэйшае. „Чорнае, лётае ў паветры і мае шэсьць ног?“

— Гэта тры крумкачы,—хутка адказвае Пятрусь.

— Не,—крычыць Мікола,—не адгадаў. Я-ж не казаў, што крычыць—кра, кра-а-а. Гэта зусім звычайная муха.

Пятрусь абураны.

— Ну, цяпер адгадай ты, што гэта такое?—Зялёнае, з рагамі, мае чатыры крыльлі і тры хвасты?

— Гэта я сапраўды не магу разгадаць,—падумаўшы адказвае Мікола,—ну, скажы ты, што гэта такое?

— Шкада, я думаў, што ты адгадаеш, бо я таксама ня ведаю, што гэта такое.

(З нямецкае) **Міхась.**



# Прыгоды паэта і пікора Капейкіна

## Альбо пра тое, як працуе атрад бяз добрага павадыра.

— Т. радакцер! Не магу-ж я маўчаць, як набраўшы вады ў рот, раз я ўласнаручна ўсімі абраны пікорам. Гэта, бачыце, мяне абралі тры месяцы таму назад. Знацца, дзела такое было. Прыходзіць гэта, ні-тут-ні-сюд, гадавіна атраду.

— Газэтку не мяшала-б сваю змайстраваць,—кажа на сходзе павадыр. А тут, хоць ты нема крычы—ніхто не адгукнецца зьляпіць яе. Ды як гэта без газэты—які тады атрад у нас, раз газэты свае няма? Гультаі ўсе, ліханька на вас...

І давай, і давай так расьпісваць. Сорамна ўсім стала. Вядома, гэтак лае, сыпле, як з кулямёта на піонэраў. І вось пашкадваў нас, грэшных людцоў, Пецька картопля. (Гэта ня прозьвішча,—дзе вы бачылі? гэта так у зьвяне прадражнілі, што ён вечна на заняткі прыходзіў з картоплямі ў кішэні).

Устаў гэта наш гэты картапляны Пецька ды як крыкне:

— Макара Целяпуткіна выбраць—няхай піша! Ён-жа ершы ўмее гарадзіць.

Падсватаў знацца. І пасыпаліся крыкі, як шышкі на беднага Макара.

— Даёш Целяпуткіна!

Яжэлі сход прысудзіў—нічога не папішаш.

— Так і быць,—кажу,—змайструю газэтку.

І змайстраваў-жа! Каб вы толькі ведалі!

Я напісаў вялізнага „ерша“ — аднаго на ўсю сьцяну нашага клюбу хапіла-б, каб разьвесіць на ёй. У гэтай газэце я напісаў аб тым, як за 2 гады наш атрад „ня выцяў палец аб палец“ (маленькая ўвага: „ня выцяў пальца“ гэта сказана далікатна, гэта вобразна, бо сапраўды ня толькі пальцы, але бывала, што і насы разьбівалі адзін другому). Словам, я напісаў, што наш павадыр Цяпкін і яго памоцнік Ляпкін плююць на ўсю працу атраду, а піонэры або б'юцца, або ганяюць кошак і сабак (а іх у нас на акраіне горада больш, чым гнід на каўняры ў нашага загадчыка санкамісіі.

І што-б вы думалі, літасьцівы радакцель? Калі даведаўся гэта павадыр, з яго памоцнікам, што я такога „ершу“ на яго змайстраваў—калі ўхапіў гэта ён мяне за каўнер, ды калі джвугнуў аб сьценку,—толькі іскры пасыпаліся ў мяне з вачэй... Ад таго яшчэ за пяро ўзяцца ня мог. Але я не такі, каб плакаць ды ворагу здавацца жывым. Я парашыў змагацца да канца. Не даець мне павадыр апісаць пра свае парадкі ў сваёй газэце. Не дае—і плакаць ня зьбіраюся. Падумаеш, рызыкант гэткі.

Я вось таму і парашыў цяпер пісаць вам, тав. радакцер; вы, я ведаю, біцца ня будзеце, бо ня ведаеце—хто я. А каб вы мяне не пазналі, я знарок не прыкладаю сваёй карткі і падпісвацца буду не сваім прозьвішчам, а выдумаю якое-небудзь. Нябось, цяпер мяне не абдураць.

* * *

Наш атрад толькі на днях прыкончыў сваю кампанію „Праца з бяспрытульнымі“. Лепш было-б выказацца, „прыкончыў не-кампанію з апошняга бяспрытульнага“, якія вадзіліся на нашай акраіне.

Цяпер мы зьбіраемся ў лягэры. Нават, далікатней кажучы, ня зьбіраемся, але думаем зьбірацца. Бо якое ліха рабіць, калі ўсю працу з бяспрытульнымі, разам з імі, скончылі? А гэта, між іншым, забаўная праца была!

На нашай Пярэсьпе завялася чарада бяспрытульных. Тут ёсьць два заводы, тут-жа станцыя. Хто такі бяспрытульны?

Я думаю, вы ведаеце, тав. радакцер?— гэта такія дзеці, якія паўцякалі з турмаў, гэта разбойнікі (так гаварыў нам пра іх павадыр. Мы прабавалі не згаджацца, але-ж супроць павадыра ня пойдзеш). Мы вызначылі сабе задачу: прыцягнуць бяспрытульных у атрад, уцягнуць іх у дзіцячы дом. Вот конкрэтная праца!—гэта я разумею.

Добра!

Вылучылі мы з свайго атраду самых здаравякаў і дзьвінулі к бяспрытульным. Павадыр, як і заўсёды, наперадзе. Знайшлі іх на станцыі. Сядзелі ўсе кучаю і рэзалі ў карты, пакурвалі нейкі сьмярдзючы тутун. Але-ж такі сьмярдзючы, як наш клюб. (Уласна, клюб тут мала вінаваты—клюб поруч з уборнай, сьцяна на дзірках, а адтуль цягне ўсялякая пархумэрыя ў наш клюб).

Падыходзім гэта мы зухавата і крычым:

— „Будзьце гатовы, таварышы!“

— Якія таварышы? галаштаньнікі! — перабівае нас павадыр.

Глядзяць яны на нас, як баран на новыя вароты. Не адказваюць. Усё роўна як вады ў рот набралі.

А крайнія шамюль - шамульды — айда ўжо хацелі драпануць. Спужаліся ці ліха іх ведае?

Адно-ж тут наш павадыр:

— Стой, крычыць, страляць буду!

Пасталі. Потым разгледзелі нас і заяўляюць:

— Вам чаго тут?

— Як гэта чаго?—выступаю тут напярод я. Мы з заданьнем к вам прышлі?

— Якім гэта, дзе яно?—пытаюцца.

— Ды такім, кажу, што мы вас у атрад павінны прыцягнуць.

— О-го-о! Гэта-ж што за зух з палівaным носам.

Злосьць, прызнацца мяне апанавала.

— Як, гэта шпана, пацан такі смаркаты ды яшчэ цебе, поэта ўсеатраданага дражніць будзе?—штурхае мяне ў бок павадыр.

А й сапраўды, думаю, абразіў ён мяне.

— Эх, ты, кажу, шмаравоз запэцканы, замаўчы, а то як цюкну па носе кулаком, дык сваіх не пазнаеш!

— Ну, ну, паспрабуй, — умешваецца другі рызыканцік, такі зусім голенькі, адны аб‘едкі штонінаў толькі цяляпаюцца на ім, увесь чорны, як смоўж.

А тут як на ліха хлопцы штурхаюць пад бакі: „Дай яму, паможам! Гэта ты яму даруеш?“—больш за ўсіх падбухторвае Цяпкін.

Падхрабрыўся гэта я, ды калі пальнуў таму чорнаму, першаму рызыканту, па носе... І што-ж вы думаеце, тав. радакцель?

Адразу хлынула кроў. Вось пальнуў! Ну, тут і пашла пісаць Амэрыка. Яны



*Такая пашла ў нас калатуша...*

на нас, мы на іх. Такая пашла калатуша, што ня толькі насоў, але і валасоў на галовах не асталося ў нас і ў іх.

На ліха стрэлачнік наляцеў. Паразганяў нас, як рудых мышэй. Отс-ж гад: ня даў нам скончыць сваё заданьне і прыцягнуць бяспрытульных у атрад.

А што з бяспрытульнымі? Яны, бедныя, так перапалохаліся нас (ім больш дасталося, чым нам—наша група здаравякаў не падкачала), што больш ні слуху, ні духу аб іх. Паўцякалі недзе.

— Несазнацельны народ, гэтыя бяспрытульныя. Ты яму дабра жадаеш, а ён вунь што вычварае—зьбягае чорт ведае куды: шукай цяпер яго, як ветра ў полі,—адзначыў у сваёй справаздачы аб працы сярод бяспрытульных, Цяпкін.

Выбачайце, што я гэтак доўга затрымаўся на гэтым. Характар ужо ў мяне такі. Не магу маўчаць ды баста!



*— Эх, вы шэльмы!*

Я вам хацеў напісаць, як гэта мы думаем зьбірацца ў лягеры. Я нават пачынаў аб гэтым, але ўсё загаварваюся і зьбіваюся на другія дзялішкі.

З надыходам лета наш павадыр Цяпкін парашыў правесьці аздаравіцельную кампанію. Для гэтага-то мы й зьбіраемся ў лягеры.

Пасьля двух месячных спрэчак аб тэрміну выезду і аб месцы лягераў мы нарэшце ўперліся ў практычны пункт гледжаньня: зьбіраем грошы на лягер. Гэта штука не такая ўжо лёгкая, тав. радакцер! Паспрабуй, пацярпі сінякі на ўласным сядзеньні! А мы-ж цярпім. Цярпім, і ня скардзімся нікому. Цярпім, можна сказаць, за несазнацельнасьць бацькоў. На зборах атраду нам Цяпкін загадаў, каб кожны піонэр украў у бацькоў ня менш 5 рублёў. Красьці можна раскладкай—па некалькі грывень, саракоўак адразу. І вось украдзеш гэта грыўню, а тут даведаецца бацька, што ты ўкраў і давай розныя допыты ўчыняць. Зразумела, ты ня прызнаешся. Консьпірацыя! А ён цябе папругай, а ты — у плач, а ён яшчэ горш.

І вось так і жывецца. Ужо трохі сабралі.

На днях ў нас такі правал адбыўся. Дачуўся Ляпкін, памоцнік павадыра, што цэрабкоп кашачыя скуркі купляе паненкам на каўняры. І кожная скурка ня менш аднаго рубля каштуе. Ото-ж было фаяру катом. Усіх чысьценька вылавілі з свайго раёну. У сваім клюбе на цэлы тыдзень бойню адчанілі. Гэты тыдзень мы так і празвалі „Кашачы тыдзень“. Нешта з паўсотні скурак злупілі. Панесьлі ў цэрабкоп. Насіў я, Цяпкін і Ляпкін. Прыходзім к старшыні цэрабкопу. Кажам так і так, ганеце 50 цалковых і на папяросы ў прыдачу (павадыры нашы заядлыя курцы, а ад іх і піонэры патрошку прывыкаюць).

Калі вылупіцца гэта на нас лысы акулярны старшыня ды калі гаркне:

— Эх, вы шэльмы! Вы гэта жартаваць з мяне!

Мы аж прыселі. Ад страху ў Ляпкіна з штанамі няпрыемная гісторыя здарылася: лопнуў гузік і мокрыя калошы зрабіліся.

Пасьля доўга не размаўляючы, хапае нас за каўнер і—вон!

Вось табе і 50 цалковых!

Не падвёз нам „Кашачы тыдзень“.

Але мы ўсё-ж такі ў лягер едзем, ня гледзячы ні на якія блёкі бацькоў і старшынь цэрабкопаў.

Праўда, маленькая перамена ў нас здарылася. Дачулася аб нашай працы ячэйка. Паставілі даклад — справаздачу аб атрадзе на ячэйцы. А пасьля гэтага што-б вы думалі, тав. радакцер?—і Цяпкіна і Ляпкіна ад нас забралі. Мы ўжо рыхтуемся ў лягеры з новымі павадырамі.

Аб сваіх лягерах і аб працы новага павадыра я калі-небудзь напішу ў другі час. А пакуль астаюся жыў і здароў.

Усеатрадны поэт **Капейкін.**



## Шчасьлівая лягерная пара.

Цішыня навакол. Даўно пеўні ўжо прапелі. Сонейка прабудзілася і кліча на вольны прастор.

Прабіла 8 гадзін. Парушаючы раньнюю цішыню, раздаецца гучны бой барабана. Усе на нагах...

Хутка строіліся ў доўгі шэраг і пад камандаваньнем павадыра роўнай сьцежкай шагаем да рэчкі, якая раскінулася недалёка ад нас. Радасна лажацца гарачыя праменьні сонца на ціхія хвалі нашай ракі. Памалу рэчка напаўняецца жвавай дзетварой. Весела мігаюць у празрыстай вадзе, то русыя, як лён, то чорныя галоўкі. Здаецца ўсе нас са здавальненьнем сустракаюць; птушкі пяюць і ціха лес гамоніць. Бадзёрымі, радаснымі, адчуваем сябе пасьля купаньня. Потым займаемся фізкультурай. Глядзіш, а на стале ўжо чакае нас сьнеданьне.

Яшчэ пару гадзін у дзень працавалі мы на полі, памагалі сялянам. Прыгожа было глядзець, як працавалі юныя работнікі.

Час абеду. Здалёку ад поля, сярод густой зелені, раздаюцца адрывістыя гукі піонэрскай сірэны.

Мы кідаем працу і імчымся да ракі.

Пасьля абеду—мёртвы час, і ў гэты час пануе мёртвая цішыня. Ня хочацца расставацца з прывольлем, здаецца не адрываючыся глядзеў-бы ў далёкую сінюю даль і на чаруючы дар прыроды.

І так праходзілі гадзіны за гадзінамі. Нарэшце пасьля пякотнага дню настае ціхі, сьвежы вечар, а разам з ім і гутарка ля кастра.

Ціха, ціха ў лесе, толькі трашчыць і палае касьцёр, і зрэдку полымя асьвятляе дрэвы, абхінутыя туманам вячэрніх змрокаў.

Скончылася гутарка. Змрокам спусьцілася на зямлю летняя ноч. 9 гадзін і ўвесь лягер засыпае. З-за хмар выглянуў месяц. Ціха, ціха наўкола, толькі калі-нікалі чутна брахня вартаўных сабак.

**Соня Кастроль.**

## На заводзе.

Сталь зьвініць,
Сталь пяе
Песьні-гімны свае.
У гэтых песьнях магутнасьць разгону.
І снуюць навакол,
Бы сям'я шчырых пчол,
Людзі працы вялікай штодзённай.
Твары пышуць агнём,
Льлецца пот з іх руччом,
А ў руках мазалістых—напорнасьць.
Іх злучыў сьпеў гудкоў,
Спаяў стук малаткоў.
У іх сэрцах агнёвая зорнасьць...
Пасаў шум,
Пасаў клум,
Палкі подых машын,
Махавік бязупынна сьпявае.
Малаткі б'юць у лад,
Звоніць стальлю варштат...
Гэта звон будаваньня у краі.
Тут снуюць навакол,
Бы сям'я шчырых пчол,
Людзі працы вялікай штодзённай.
Сталь зьвініць,
Сталь пяе
Песьні-гімны свае.
У гэтых песьнях—магутнасьць разгону.

**Я. Івашын.**

## Радыё ў вёсцы.

Ня так даўно ў нашай вёсцы наладзілі радыё. Першы раз у сваім жыцьці мы пачулі: „Алло! Алло!.. Гаворыць Маскоўская станцыя імя Комінтэрну“...

Як былі рады мы, што ў нашай вёсцы ёсьць такая навіна, як радыё. Наш тэхнік казаў, што мы будзем чуць усё з Масквы, Менску, Харкава і іншых вялікіх гарадоў.

Зараз мы чуем концэрты, піонэргазэту, і гэта нам дужа падабаецца. Мы, вясковыя дзеці шлём шчырую падзяку мясцовай уладзе, якая ўстанавіла ў нас радыёпрыёмнік.

**У. Раманькоў.**

(Вёска Кішчыцы, Аршаншчына).



*Прыдумайце самі самае страшнае пудзіла і пасшаўце яго на сваім агародзе. Ведайце, што птушкі зьядаюць шмат хлеба.*

## Палепшылі газэту.

Заўсёды ў нас дрэнна выпускалася насьценная газэта. Вучні не давалі матар'ялу.

Тады парашылі організаваць дзяткораўскі гурток, і газэта стала выходзіць кожны месяц. Дзяткораўскі гурток распрацоўвае тэмы і дае іх дзяткорам, а дзяткоры падаюць допісы ў насьцен. газэты. Рэдкалегія, якая ўтворана з складу бюро дзяткораўскага гуртка, распрацоўвае тэмы і насьцен. газэта выходзіць вельмі добрая, артыкулы малыя, але цікавыя.

Матар'ялу хопіць ня толькі на адзін нумар газэты, але нават на 2-3 выпускі. Гэты гурток пашырае тыраж піонэрскай прэсы.

Гурэвіч і Хайцын.

(Барысаў, 6-ая сямігодка).

## Фотографы і радыёаматары.

За апошнія часы ў нашых піонэраў зьявілася жаданьне працаваць у новых гурткох, як, напр., фото і радыё гурткі. За організацыю іх узялося праўленьне Цэнтральнага Піонэрскага Клюбу, якое падшукала кіраўнікоў. Гурткі пачалі сваю працу. Працай гурткоў піонэры вельмі здаволены.

Барысаў. Л. Гарфінкель.

## Конкурс дапамог.

Яшчэ з месяц таму назад газэта заместа таго, каб выходзіць раз у месяц, выходзіла на два-тры тыдні пазьней. Паўстала пытаньне як перад рэдкалегіяй, так і атрадам, як палепшыць выпуск газэты. І вось, каб зацікавіць піонэраў да пісаньня ў газэту, мы вынесьлі пастанову: „Назначыць конкурс на акуратнага корэспандэнта ў працягу трох нумароў газэты. Лепшай заметкай мы лічылі тую, якая акуратна падана ў тэрмін і добрая па якасьці. Тыя піонэры, якія дадуць большы лік заметак, атрымаюць прэмію: 1-ая—выпісаць на тры месяцы „Чырвоную Зьмену“. 2-ая—на адзін месяц „Беларускі Піонэр“. 3-яя – на адзін месяц „Чырвоную Зьмену“.

Назаўтра пасьля такога абвяшчэньня ўсе піонэры пачалі даваць заметкі. Цяпер газэта выходзіць рэгулярна.

Я. Раткевіч.

(Менск, 24 атрад пры Мен. Страх. Касе).

## Мы пабудавалі радыё.

Да сёлетняга году пры нашай сямігодцы ня было радыёпрыёмніка. Вучні, якія жывуць у інтэрнаце і мястэчку, ня мелі чым заняцца ў вольны час. І сумна аднастайна праводзіўся час адпачынку. У гэтым годзе за школьныя сродкі былі куплены патрэбныя прылады для пабудовы радыё. У будове прынялі ўдзел вучні сёмай клясы, а ад настаўнікаў—загадчык школы. Вучні ўзяліся выкапаць ямы і дастаць дроту для замацаваньня мачт. Чырвонаармейцы зьявіліся добрымі кіраўнікамі ў пабудове радыёпрыёмніку. Такім чынам, пры нашай сямігодцы вучні з дапамогаю чырвонаармейцаў пабудавалі радыёпрыёмнік. Цяпер кожны вечар вучні старэйшых клясаў пасьля шасьці гадзін ідуць слухаць даклады і концэрты, а малодшыя на зьмену ім.

Рады вучні, што ёсьць чым заняцца. У некаторых вучняў зьявілася думка ўгаварыць бацькоў пабудаваць радыё ў сябе дома.

К. Юдзіцкі.

(Мяст. Заслаўе. Меншчына).

## Дапаможам наладзіць працу.

Да гэтага часу піонэры нашага атраду ня ведалі, што каля нас ў адлегласьці 4 вёрст ёсьць Ляхаўскі атрад, праца якога стаяла на мёртвым пункце. Каб пазбавіцца ад гэтага ў гэтым годзе, мы сталі наладжваць супольныя нарады 4-5 Ляхаўскіх атрадаў, дзе абгаварвалі пытаньне аб узаемадапамозе, аб абмене вопытам працы.

І вось на адным з такіх пасяджэньняў мы даведаліся, што праца ў Ляхаўскім атрадзе наладжана дрэнна. Усе піонэры, якія прысутнічалі, як Вільшчынскага, так і Станькаўскага атраду прынялі шчыры ўдзел у абгаварэньні гэтага пытаньня і ўхвалілі:—Працу ў Ляхаўскім атрадзе падняць на належную вышыню, дзеля чаго вылучылі старэйшае зьвяно з Станькаўскага атраду (пры дзет. колёніі), якое і ўзялося за гэту працу.

Гэта зьвяно зрабіла 2 выхады ў Ляхаўскі атрад, дзе прысутнічалі на зборы атраду і наладзілі выпуск насьценнай газэты.

Я прапаную ўсім вясковым атрадам па магчымасьці аб'яднацца ў групы і колектыўна наладжваць працу.

А. Кулініч.

(Вільшчына, ШСМ. Меншчына).

## Школа—вёсцы.

Наша школа ўзяла шэфства над вучнямі вёскі „Гара“, якая знаходзіцца недалёка ад гораду. Для таго, каб дапамагчы ім сродкамі, мы выпусьцілі падпісны ліст і сабралі каля 10 руб.

На сабраныя грошы купілі кніжкі, якія адаслалі ў вёску. Але адных кніжак для сувязі з вясковымі дзяцьмі мала. Патрэбна была і жывая сувязь, таму вучком і фарпост парашылі: калі бываюць кіно-сэансы па таннай цане (5 к.), вадзіць вучняў у кіно.

Б. Фрумкінс.

(Нова-Барысаў, 8-ая школа).

---

## Вывучай дарожныя значкі.

Спачатку работы нашай організацыі, мы вучылі дарожныя знакі.

Іх ёсьць вельмі многа, але галоўных, якія трэба помніць, шэсьць, а можа і 5.

Старыя піонэры, напэўна, яшчэ памятаюць іх. А калі не, дык не бяда.

Вывучыць дарожныя значкі надзвычайна проста.




Стрэлка абазначае—ісьці па гэтай дарозе.

Крыж—па гэтай дарозе ня можна.

Кружок з кропкай пасярэдзіне—я пашоў дамоў.

Намаляваны ліст і ад яго стрэлка—паказвае, у якім напрамку захован ліст, а лічба на лісьце гаворыць, праз колькі крокаў ад гэтага месца знаходзіцца ліст.

Простакутнік, запоўнены пакручастай лініяй з стрэлкай, як у лісьце, паказвае напрамак вады.

Трохкутнік на стрэлцы—азначае шлях на месцы, дзе стаянка, лягер (штаб альбо дом).

Вывучыць знакі, бязумоўна, лёгка і калі гуляюць дзьве партыі, дык ворагі лёгка маглі-б знайсьці знакі, якія абазначаны для сваіх.

Вось тут і павінна працаваць кемкасьць дзяцей. Знакі можна рабіць з сукоў, з травы, складваць з каменьняў, зьмяшчаць іх на дрэвах, на зямлі.

Вельмі цікава вышукваць па гэтых знаках тых, хто пашоў наперад.

Значкі, па правілу, няможна ставіць далей, чым на 15 крокаў адзін ад другога.

Дарожныя значкі могуць прыгадзіцца ня толькі ў час гульні, а вось, напрыклад, у такіх выпадках:

Пашлі мы ў лес, былі на якім-небудзь месцы і па якой-небудзь прычыне пашлі з яго, а адзін з вашых, адышоўшы ў гэты час, застаўся. Вось вы і зрабеце дарожныя значкі к месцу сваёй стаянкі.

# Экскурсія ў музэй.

Знаходзіцца ён побач з вялікім гістарычным музэем у ранейшай архірэйскай царкве.

Ледзь толькі мы ўвайшлі ў сярэдзіну, як адразу кінуўся ў вочы белавескі зубр. Вялікі, магутны, ён стаіць нібы жывы, і робіць моцнае ўражаньне. Побач з ім стаіць на задніх лапах мядзьведзь і нібы рыхтуецца напасьці на людзей. Але-ж і мядзьведзь! Каб дабрацца да яго галавы, прышлося-б, мусіць, двум дзесяцігадовым хлопцам стаць адзін аднаму на плечы. Ёсьць і яшчэ два мядзьведзі, але тыя меншыя.

Са сьцяны вытыркаецца палова тулава дзіка. Жах бярэ гледзячы на гэтую страшэнную галову, з вялізнымі клыкамі. У параўнаньні з імі, якім нікчэмным здаецца воўк, што стаіць далей з выскаленымі зубамі.

Побач з ваўком стаіць складная прыгожая казуля. Цікавая, гібкая, доўгая, драпежніца выдра. Вельмі прыгожыя беленькія гарнастаі з чорненькім кончыкам хваста. Для параўнаньня побач сядзіць другі такі гарнастай, але ўжо ў летняй вопратцы—шэравата-рудой. А ўвосень на ім яшчэ іншае адзеньне, нейкае бруднае, стракатае. Вось і нашы гарапахі з няздом і яйкамі. А там і тхор, і ваверкі, і заяц, і падласка, і вожык, і нават мышка,—адным словам, усе тыя жывёлы, якія водзяцца на Беларусі.



*Сава*

Усе яны дасканала зроблены з іхных-жа скураў, пастаўлены ў такія самыя ўмовы, як і на волі, і зусім падобны да жывых. Каб не псаваліся, стаяць у вялізных шкляных скрынях-шафах. І пералічыць іх усіх тутака немагчыма. А птушынае царства дык яшчэ ў некалькі разоў багацей. Здаецца, усе вядомыя і невядомыя нам птушкі зьляцеліся сюды. Сядзяць яны на кусьціках, на дрэвах, нібы жывыя, і, здаецца, вось-вось засьпяваюць. І побач іхныя гнёзды з яйкамі.

— Цётачка, выпусьці іх, няхай палятаюць, просіць пяцігадовы пацан жанчыну, што даглядае музэй.

— Нельга, кусацца, дзюбацца, пачнуць,—з сур'ёзнай мінай адказвае цётка.

Вось стаіць вялізны белы лебедзь. У параўнаньні з ім бусел здаецца ўжо зусім малым. Затое там стаіць другі бусел, якога, мусіць, мала хто бачыў.

Важна выступае даўганогая цапля, а там яшчэ розныя даўганогія, даўганосыя птушкі, назвы якіх ад аднаго разу і не запомніш. Цецярук, арол, сава, курапаткі і г. д. Вось каршун ухапіў зайца. Вось два груганы дзяўбуць здохлага сабаку, і зроблена гэта так натуральна, што публіка мімаволі затыкае сабе насы, усім здаецца, нібы яна сьмярдзіць. Побач сарока з варонай падчапілі па кавалку падлы.

А ў зарасьніку, у чароце, на вадзе разьмясьціліся вадзяныя птушкі з гнёздамі і яйцамі. А там у мяккім беразе чарнеюцца дзіркі-гнёзды груноў і яшчэ розных птушак, якія робяць гнёзды ў стромкіх берагох рэк. Але болей усяго падабаецца сямейка курапатак на сьнягу. Ніхто ня можа спакойна прайсьці міма іх. А на адным карчу прытулілася нейкая птушка; здаецца і не малая, на віду, але 40 чалавек глядзелі проста на яе і ніхто ня бачыў! Бо колер яе вельмі падобен да дрэва.

Калі ўсіх зьвяроў апісаць цяжка, дык птушак ужо зусім немагчыма. Калі каму прыдзецца пабываць у Менску, дык вельмі раім навясьціць гэты музэй. Адчынен ён у нядзелю і чацьвер, ад 11 да 2-х гадзін дню, і плаціць ня трэба. Ён яшчэ ня поўны, праца ідзе, і з кожным днём музэй узбагачаецца.

**Удзельнік.**



## Разьдзел VIII-ы.

1. Ад чаго награецца шкло: ад сонца ці ад рамы?
2. Якую карысьць гаспадару прыносіць сава?
3. Якая частка земнай кулі знаходзіцца пад вадой?
4. Чаму раўняецца адна тона?
5. Якая самая даўжэйшая рака ў сьвеце?
6. Як напісаць адзінку трыма пяцёркамі?
7. З чаго вырабляецца жалеза?
8. Чым вядомы Кастусь Каліноўскі?
9. Хто такія „чырвоныя Пікі"?
10. Што такое эспэранто?
11. Адкуль пайшло слова „самавар"?
12. Якія назвы меў раней Ленінград?
13. Якая замежная дзіцячая арганізацыя выдае часопіс пад назвай „Пуналіпу"?
14. З чаго робіцца вата?
15. Што такое Гольфштром?
16. У якім беларускім горадзе ёсьць трамвай?
17. Дзе паветра ў хаце будзе цяплейшым: уверсе ці ўнізе?
18. Каму належыць востраў Сахалін?
19. У якой частцы сьвету знаходзіцца Аўганістан?
20. Хто напісаў „Біблію" ў вершах?

## Адказы на разьдзел VII-ы.

1. Гэта рух паветра: халоднага ў цёплае і наадварот.
2. Каб праз вітаньне не магло быць заражэньняў.
3. Рэшта семя, з якога выціскаецца масла—алей. сок.
4. Робэрт Фультон.
5. У Баку.
6. Пяць рагоў азначаюць пяць частак сьвету.
7. Пяць акіянаў.
8. Пры замярзаньні вада расшыраецца, таму аднолькавая колькасьць лёду і вады будзе не аднолькавай на вазе.
9. Стравус.
10. Каля 2-х мільярдаў.
11. Лёгкімі.
12. 5 мая.
13. Не.
14. Скарпіён.
15. Чатыры. (Поўдзень, поўнач, усход, захад).
16. Калюмб у 1492 г.
17. Макар Чудра.
18. У 1926 г.
19. 8.
20. Эсэркай Каплан у 1918 г.

---



*Перапёлка.*

## Аратаму.

Сей, араты, збожжа!
Праца не загіне.
Ўвосень возьмеш болей,
Чым цяпер ты кінеш.
Адбяры насеньне,
Адсартуй, абчысьці,
І табе за працу
Будзе шмат карысьці.
Ўлетку выйдуць жнеі
З гострымі сярпамі,
Закідаюць поле
Жоўтымі снапамі.

А. ЛАНДАРСКІ.

# ШТО ЧЫТАЦЬ.

**„Мотоцыклет“.** *Зборнік апавяданьняў. „Чырвоная Зьмена“, 1928 г., стар. 68. ц., 60 к.*

У зборніку 7 твораў, з якіх два вершаваных: адзін народнага паэты *Якуба Коласа* („Савось—Распусьнік“), а другі—піонэра Кастуся Шавеля („Шустры вожык“). Суседзтва цікавае і прыемнае. Якуб Колас падарыў дзецям цікавае, мастацкае апавяданьне аб хлопцу, які захацеў загубіць ката, але нарэшце сам пацярпеў ад яго. У „Шустрым вожыку“ апісваецца, як вожык судзіў мышку і яе адваката павука. Верш Шавеля напісаны досыць удала. Аўтар мае значныя здольнасьці, але яму пагражае небясьпека. Справа ў тым, што ён пачаў пісаць вельмі многа і часам нядбайна. Часта можна заўважыць, што ён набраўся ўпэўненасьці і нават ня лічыць патрэбным больш папрацаваць. Хай ён ведае, што вялікія поэты часам тыднямі працуюць над некалькімі радкамі.




Лепшымі апавяданьнямі ў зборніку зьяўляюцца: „Стракаты“ — С. Кашчыны і „Прыдумалі“—Бабінскай (пераклад з польскага). Зьмест „Стракатага“ вельмі просты (як пастух абкарміў свайго быка), але напісаны ён так добра, што з пачатку да канца чытаецца з захапленьнем. „Прыдумалі“ — кажа аб тым, як піонэры 8 красавіка агітавалі сваю матку: у гэта апавяданьне аўтар здолеў укласьці столькі шчырага пачуцьця, што яно робіць глыбокае і моцнае ўражаньне. Цікавае па зьместу апавяданьне Янкі Маўра аб тым, як зьвяры апанавалі карабель на моры. Апавяданьне „Мотоцыклет“ апісвае, як два хлопцы селі на чужы мотоцыклет, неяк рушылі яго, але спыніць ня ўмелі і... апынуліся аж у Польшчы. „Першы пасажыр“ (апав. Ю. Віка, з украінскае мовы)—гэта хлопчык, які ціханька схаваўся ў новым самалёце і такім чынам зьявіўся першым пасажырам на ім.

Наогул зборнік разнастайны і цікавы. З тэхнічнага боку выданьне ня дрэннае, але крыху шэрае.

**„Маленькі балагол“** *Я. Віра* Бел. дзярж. Выдавецтва. стр. 47, ц. 25 к.

У кніжцы 3 апавяданьні, я якіх два ўзяты з яўрэйскага жыцьця. Яшчэ да гэтага часу ў нас захаваліся погляды, што яўрэі нейкія асобныя людзі, што жыцьцё іх зусім не такое, як у іншых людзей, думкі і ўчынкі зусім іншыя і г. д. Так выхоўвалі пры цары ў школах, так казалі папы, так пісалася ў кнігах. Было ў гэтым крыху і праўды, бо яўрэяў нікуды ня пускалі, прасьледвалі; загнаныя ў свой кут, яны прымушаны былі жыць сваім асобным жыцьцём.

А цяперака гляньце на „маленькага балагола“: ён у піонэрскім атрадзе зусім такі, як і ўсе. Скоса глядзяць на яго бацькі, але калі прышла бяда, яны ўбачылі, што іх сын ня толькі ўмее працаваць ў атрадзе, але можа падтрымаць усю сям'ю. А колькі цярпеў упарты Мота (апав. „Упарты“) ад сваіх бацькоў, за тое што не хацеў вучыцца ў хэдэры! Уцёк, трапіў да палякаў, вызваліў іншых палонных і нарэшце далучыўся да чырвонаармейцаў, якія толькі што вызвалілі мяйсцовасьць ад палякаў.

Трэцяе маленькае апавяданьне „Падарунак бацькі“ (як бацька у сьне падарыў сыну чырвоны гальштук)—менш значнае і ня так цікавае.

З знадворнага выгляду кніжка добрая і цана невялікая.

---

# Паштовая скрынка.

**Мазо Б.** Аб заганах вашай вуснай газэты пастаў пытаньне ў атрадзе.

**Сечко Зьм.** Запытаньні можна слаць у рэдакцыю „Бел. Піон.“ для Піонэр Габінэта.

**Харкевічу М.** Праграма дзяткоргуртка будзе надрукавана ў асобнай кніжцы, аб выхадзе якой будзе ў нашай часопісі абвешчана.

**Астроўскаму Яшу.** Допіс „Праца нашага атраду“ ня пойдзе. Ты хацеў адразу апісаць усю працу атраду, а таму і допіс адтрымаўся досыць сухім і няцікавым.

**Рокашу Я.** Закранутыя пытаньні ў тваім допісе „Ячэйка і атрад вазьмеце на ўвагу“ пастаўце на абгаварэньне ў комсамольскай ячэйцы.

**Юнкораўскаму гуртку камуны.** Вашы допісы: „Кузьня сьвядомых грамадзян“ і „Комсамолія Ўсебеларускай дзіцячай камуны“—ня будуць зьмешчаны. Напісаны не для дзіцячай часопісі.

Дзяцей ня цікава знаёміць з агульнымі задачамі камуны і яе гаспадаркай. Пішэце пра жыцьцё і быт саміх дзяцей,—гэта будзе цікавей.

**Караткевічу А.** Можаш пісаць нарысы з жыцьця дзяцей.

**Бондару А.** Допіс „Рэдкалегія, прачніся“ ня пойдзе. Аб рабоце апошняй абгаварэце на сходзе атраду.

**Кролю Язэпу.** Піонэры ўрачыстае абяцаньне здаюць перад комсамольскай ці партыйнай ячэйкай, а не на савеце атраду. Лепш усяго да здачы ўрачыстага абяцаньня падрыхтаваць які-небудзь вечар. Урачыстае абяцаньне здаецца праз месяцы 2-3 пасьля таго, як той ці іншы навічок залічаны ў атрад і ведае законы і звычаі піонэраў, і сумленна іх выконвае.

Калі ў піонэра парваўся гальштук ці паліняў—можна набыць новы.

У піонэры прымаюць ад 10-ці да 15-ці год. У атрадзе піонэр можа быць да 16-ці год і ня больш, а калі ён не падходзіць да комсамолу—выбывае з атраду.

Перадаць у камсамол можна і 15-ці гадовага піонэра, бо ў комсамол прымаюцца ад 14 год.

Калі ў вас у атрадзе ёсьць такія піонэры, якія па два гады ў атрадзе і не здавалі ўрачыстага абяцаньня—гэта ня добра.

Усякі залічаны ў атрад мае права голасу.

# ПАВОЗКА БЕЗ КАЛЁС.

Добрая рэч кола, калі ёсьць дарога. А вось калі няма дарогі, дык і кола ні к чаму, усё роўна, што лыжка, калі няма кашы. Па сьнезе, па балоце, па глыбокім пяску, па каменьнях і выбоінах на колах не праедзеш. Павозцы на колах патрэбна дарога так-жа, як цягніку патрэбны рэйкі. А асабліва добрая дарога патрэбна аўтамабілю.

Заграніцай цяпер пракладваюць спэцыяльныя аўтамабільныя дарогі, шырокія і трывалыя, сапраўдныя праспэкты сярод чыстага поля. Нам да гэтага пакуль далёка. Для нашых бязьмежных палёў, стэпаў і балот патрэбен не аўтамабіль, а „Усюдыход“ (Вездеход) такая павозка бяз колаў, якая магла-б перасоўвацца без усякіх дарог, па якой хочаш глебе.

Сто год таму назад людзі дадумаліся да павозкі без каня, а цяпер і бяз колаў хочуць абыйсьціся. Ды яно і зразумела. Вядома, што лепшы ўсюдыход—гэта жывёла. А жывёлы на колах ня бывае, хіба толькі ў цацачнай краме. Значыцца самае правільнае—дарабіць да павозкі ногі, каб яна магла хадзіць, як ходзяць жывёлы. Гэткі ўсюдыход на нагах прыдумаў інжынэр Р. Вэнулаф. У яго машыне чатыры вагромныя нагі ці лапы.

Ступня ў лапы не маленькая—даўжынёю ў чатыры мэтры, а шырынёю амаль у 1,5 мэтры. У часе язды ўсюдыход падымае лапу, высоўваючы яе хутка наперад і ставіць на зямлю. Кожны крок—120 см. У гадзіну ўсюдыход праходзіць 10 кілёмэтраў. Гэта значыць, што ў сэкунду ён робіць больш двух крокаў.

Усюдыход лёгка шагае праз канавы, каменьні, ствалы дрэў, не правальваецца ў сьнег, ня вязьне ў балоце.

Шыны яму не патрэбны. Праўда боты яго з часам псуюцца, але на гэта ёсьць шавецкая, г. з. рэмонтная майстэрня, куды ўсюдыходу прыдзецца час ад часу наведвацца для паправы сваіх сталёвых ботаў. Зьядае ён бэнзыны менш, чым грузавік гэткай-жа велічыні. Ёсьць і другія ўсюдыходы, напрыклад, вусянічныя трактары і танкі. Танк—гэта ўсюдыход, які ня ходзіць, а поўзае. На першы погляд—гэта нязграбнае страшыдла. Але як спрытна гэта страшыдла перамахвае праз насыпы і канавы, паварачваецца на мейсцы, прабіраецца праз хмызьнякі і зарасьнікі. Я сам бачыў, як у часе вучобы танкі пераламалі цэлы гай.

Яшчэ больш нязграбны па выглядзе „Сноўмабіль“—сьнегаход, вынайдзены ў Амэрыцы. Замест колаў у сьнегахода па бакох у ляжачым становішчы два вагромных гляйцэры. Матор прымушае гляйцэры круціцца і ўтрубоўвацца ў сьнег, быццам у корак.



Усюдыход

Сьнегаход лёгка падымаецца на крутую сьнегавую гару, на якую не ўзабрацца і чалавеку. Усе гэтыя ўсюдыходы маюць адзін вялікі недахоп—яны рухаюцца надта павольна. Бяз колаў, вядома, далёка не заедзеш.

Інжынэр Холт паспрабаваў прыстасаваць для язды без дарог звычайны колавы аўтамабіль, які лёгка разгортвае хуткасьць 50—60 клм. у гадзіну. Холт зразумеў, што ўся бяда ў тым, што колы аўтамабіля не свабодны, а злучаны паміж сабою восямі. Калі адно кола падскаквае на выбоіне, другое, якое сядзіць на адной з ім восі, таксама павінна падскакваць.

А ад гэтага прыходзіцца падскакваць і людзям, якія сядзяць ў аўтамабілі. Холт у сваім усюдыходзе зрабіў усе колы свабоднымі. Рысоры зроблены так, што скокі колаў амаль зусім не адчуваюцца пасажырамі.

Усюдыход Холта быў выпрабаван у полі і па старой дарозе ў лесе. Кажуць, ён вытрымаў экзамен дасканала. На поўным хаду ён пераскакваў праз ямы, прабіраўся праз хмызьнякі, пералязаў праз рытвіны.

ЦАНА 12 кап.



## Загадкі.

1. У хатах празрыстых
Усе яны жывуць.
Іх можна ўбачыць
Ды ня можна чуць.
Увесь век свой моўчкі
Жывуць так яны.
Ніхто не пазнае,
Ніхто не ўгадае,
Ці яны вясёлыя,
Ці яны самотныя,
Бо вечна маўчаць!
Хто-ж тыя маўчуні?
А ну, хто можа адгадаць?

2. Белая поле, чорнае насеньне, хто ўмее—пасее, хто знае—той адгадае.

3. Такая я вялікая, што й канца ня маю; ляжу сабе ціха, нікога не закранаю; толькі мне добрыя людзі і дзень і ноч таўкуць грудзі.

4. Воз без калёс, дарога без пяску. Што гэта?

5. Ідзе чалавек—і яно ідзе, а спыніцца—дык і яно стане.

6. Стукоча, грукоча, як сто коняй лапоча; трэба стаць, пагадаць, што тым коням есьці даць.

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

## Адказы на задачы.

### № 4 „Б. П.“

1. **Задача складоў—**

| | | |
|---|---|---|
| СА | ЛА | ТА |
| ЛА | ПА | ТА |
| ТА | ТА | РЫ |



2. **Задачы - жарты:** 1) 2,3 (знак — коска). 3) Усё роўна пуд важыць.

### № 5 „Б. П.“

1. **Два самавары.** — Раней астыне самавар у форме цыліндра.

2. **Шклянкі і нажы.**—Канцы нажоў скрыжоўваюцца між шклянак.

3. **Загадкавы малюнак.**—Рабочы ляжыць уверсе, ногі перавісьлі на блёку.

### № 6 „Б. П.“

1. Птушак не забівае токам таму, што яны адарваны ад зямлі, і электрычны ток ня будучы злучаным з зямлёю ня мае сілы для разраджэньня.

2. **Як пераліць?** Перад намі 3 збаны.




1) Бяром з 3-га і ліем у 2-гі і наліваем поўны 3-ці, а пасьля даліваем з 3-га ў 2-гі.
Тады маем:
1—1 літр, 2 – $2^1/_2$, 3—$^1/_2$ літр.
2) Зараз з 2-га пераліваем у 1-шы, а з 3-га пераліваем палову літра ў другі (пусты) і яшчэ бяром поўны 3-ці з 1-га і ліем у 2-гі, тады і будзе ў 2-гім 2 літры (палова) і ў першым 2 літры.

### № 7 „Б. П.“

1. Як зьняць корак? — трэба кружыць ваду ў бутэльцы. Вада зойме форму лейкі з упадзінай у сярэдзіне. Праз гэту сярэдзіну і выкінецца корак.
2 **Задача-манаграма.** Ложка, елка, нож, Іван, ноты.
2. Задача № 2—Я-куб.
3. Кругі круглыя (здалёк здаюцца кантовымі).

### № 8 „Б. П.“

1. **Загадкі:** 1) Літара, 2) Бусел, 3) Іголка, 4) Сава, 5) Вясной, 6) Матыль, 7) Журавель у студні, 8) Зімой, 9) Увосень, 10) Летам.
2. **Ці правільна ідзе гадзіньнік?** — Не. Аб гэтым сьведчыць зусім кароценькая цень ад вежы і гледача. У 8 г. раніцы цень будзе большай.

1-я друкарня БДВ. Заказ № 2537. У ліку 2000 экз. Галоўлітбел № 1464.